© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

У нумары: Дзявочая клятва ○ Спраставання не будзе ○ Нявестачка Оля

# І КАРОВЕ ПАТРЭБНЫ ВІТАМІН

Аб лекары ветэрынарыі, Яне Ягельскім, я неаднойчы чуў шмат добрага ў аколіцах Юшкавага Груда, Ялоўкі і другіх вёсак.

— Лекар у нас — чалавек адданы, — гаварылі. — Заедзь да яго ў любую пору, ён ніколі не адкажа. Завея ці непагадзь, ён заўсёды спяшыць да хворай жывёлы. І найважнейшае, што добры спецыяліст. Такога яшчэ не было ў нас.

З лекарам Янам Ягельскім я пазнаёміўся ў Міхалоўскай ветэрынарнай лячэбнай. Будынак лячэбнай тут новы. Яго пабудавалі ў 1956 годзе забяспячаючы навейшым ветэрынарным абсталяваннем.

— А ўсё ж цеснавата нам тут, — кажа Ян Ягельскі. — Прыдалося б больш месца на лякарствы, асобны пакой — пачакальня для наведвальнікаў. Нязручна людзям стаяць у халодным калідоры.

— Ці шмат наведвальнікаў у Вас бывае?

— О так. Бываюць дні, калі нават дзесяткі наведвальнікаў збярэцца ў лячэбнай. Тэрыторыя, якую абслугоўвае лячэбная — не малая. Усе вёскі грамадскіх радаў у Ялоўцы, Шымках, Юшкавым Грудзе, Міхалове і часткова Фальварках — гэта тэрыторыя нашага дзеяння. Найбольш наведвальнікаў прыходзіць за ўсякімі парадамі.

З гэтага відаць, што ветэрынарная лячэбная ў Міхалове карыстаецца належнай папулярнасцю і даверам у вёсках. А гэта важна.

— На якія хваробы найбольш захворвае жывёла ў гэтай аколіцы?

— Найбольш выпадкаў захворвання на матыліцу. Бачыце, мясцовасць у нас больш спрыяльная гэтай хваробе. Тэрыторыя падмоклая, кругом багны.

— А якія сродкі лячэння?

— Найлепшае лякарства ў такім выпадку — гэта меліярацыя балот і сенажацяў. І трэба сказаць, што ў гэтым напрамку шмат у нас робіцца. Вялікі абшар балот ужо змеліяравана ў аколіцах Навасад. Зараз меліярацыя праходзіць у аколіцах Мацейкавай Гары, Таніцы і ў другіх мясцовасцях. Пройдзе яшчэ нейкі час і думаю, што з матыліцай пакончым раз на заўсёды.

— Несумненна, што пры так разлеглай тэрыторыі шмат маеце цяжкасцей у сваёй працы.

— Зразумела. Найбольшай перашкодай у нашай працы ўсё яшчэ з'яўляюцца дрэнныя дарогі ў аколіцы. Здарыцца нейкі няшчасны выпадак жывёле ў аколіцах, напрыклад, Ялоўкі, паспрабуй даедзь туды (звыш 30 кіламетраў), калі завее або растопіць дарогі. Таму арганізавалі мы пункт ветэрынарнай дапамогі ў Шымках. На жаль, працаўніка гэтага пункта паклікана адбываць вайсковую службу. Ад лістапада пункт у Шымках нячынны. Але ўжо маем чалавека, які адбыў спецыяльны курс і ён хутка будзе накіраваны ў Шымкі. Наступная справа, гэта так званыя хатнія спосабы лячэння жывёлы. Амаль у кожнай вёсцы ёсць «спецыялісты» па гэтых справах. Ох, колькі ж бяды прыносяць гэтыя гора-спецыялісты і жывёле, і гаспадарцы, і нам. Скалечыць такі хворую жывёлу сваім метадам, тады і лекару цяжка яе адратаваць.

( Працяг на стар. 4)


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (311) | ГОД VIII | 27 СТУДЗЕНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР


# СНЕЖНАЯ БЕЛАВЕЖА



Зіма 1963 года не паскупіла нам сваёй суровай прыгажосці. Марозны студзень сцяў рэкі, сярэбраным інеем упрыгожыў дрэвы, тэлефонныя драты і адмысловымі ўзорамі размаляваў шыбы сялянскіх хат.

Холадна, бр-р-р! Але прыгожа. Асабліва прыгожая зімой Белавежа. Дарога з Гайнаўкі ў Белавежу — гэта адзін чароўны ледзяны тунель. Асыпаныя інеем галіны векавых дубоў уверсе над дарогай падаюць сабе пальцы - галінкі, ўтвараючы цудоўны полап. Выгляне з-за алавяных хмар соннае сонейка, і пушча заіскрыцца, заззяе мільёнамі ледзяных зорачак. Лес, здаецца, акамянеў зімовым сном. На дарозе рэдка каго сустрэнеш. Часам толькі прасунуцца, заскрыпяць палазамі сані нагружаныя дрэвамі. Холад. Але пушча не спіць. Вось пад галінкамі ёлкі ўстрапянуліся, зачырыкалі сінічкі-шчабятушкі. Дзюб-дзюб у галінку. Есці хочацца. А сонныя камары не ўцякаюць.

Каля агарожы запаведніка сустрэнем уладара Белавежскай пушчы — зубра Помніка. Выгнуўшы дугой свой карак волата, чмыхае мызай узледзянелы снег. Ежы шукае.



З КОНКУРСУ ГП БГКТ «МАЕ МАРЫ» (III УЗНАГАРОДА)

# А можа калісьці сапраўды так будзе?

ЯНКА ЛЕАНЮК — вучань агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове (17 год).

Доўгі восеньскі вечар. На вуліцы цемрадзь, хоць вока выкалі. Не хочацца нікуды ісці. Лепш сесці за стол і пачытаць кніжку. Не чытаецца нешта... Вочы мімавольна ўглядаюцца ў акно. Перад вачыма перасоўваюцца вобразы...

Марская школа. У ясных, светлых залах сядзяць маладыя хлопцы, апранутыя ў марскія вопраткі. Усе як адзін. З-пад сініх каўняроў з белымі тасёмкамі відаць загарэлыя шыі. Загарэлыя грудзі сведчаць аб тым, што пабывалі яны на моры, аддыхалі здаровым марскім паветрам. Спрацаваныя рукі і загарэлыя твары таксама сведчаць аб тым, што гэта пачатак навукі пасля двухмесячнага вакацыйнага рэйса. Так, яшчэ некалькі дзён таму назад усе яны былі на моры. Далёкія экзатычныя краіны, месячныя ночы, начныя вахты, белыя парусы стаяць перад вачыма гэтых хлопцаў. Цяжка цяпер брацца за навуку, цяжка пакінуць успаміны. Аднак думка аб дыпломе, які атрымаюць у гэтым годзе, нагадвае да вучобы. Гэта ж апошні год! За дванаццаць месяцаў з дыпломам афіцэра таргоавага флота ў руках яны пакінуць школу. Але толькі за дванаццаць месяцаў...

А пасля: экзотыка, перажыванні, прыгожыя далёкія краіны і многа ўсяго цікавага. Ну, але тады ўжо дойдзе абавязак. Гэта ж не перашкаджае. Маладыя людзі гэтага не баяцца. Шкада толькі, што іх разам не будзе. Так заўсёды бывае... Сябрамі будуць усе матросы.

...Дзесьці на далёкім моры... Месячная ноч. Усе спяць. Не спіць толькі начная вахта. Некалькі матросаў стаіць на палубе. Вецер нават не варухне серабрыстай вадой. У яснай, серабрыстай і ціхай тоні адбіваецца месяц і зоркі. Абапершыся аб плоцік, які абгароджвае палубу, матросы ўслухоўваюцца ў ціхі аднастайны плёск хваляў. Вось прыгожая ноч! Рамантычная ноч. Вакол здаровае марское паветра. Вось тэма і месца да пісання. Сядай на палубу і пішы. Праўдзівае паэтычнае натхненне! Параход у месячным серабры выглядае быццам зачараваны велікан...

Аднак не ўсё бывае прыемным у жыцці матроса. Ноч. Хмары вісяць нізка над галовамі. Шторм кідае параходам, як пярынкай. Высокія хвалі перавальваюцца праз палубу. Маланкі раздзіраюць цемрадзь ночы. Пяруны дадаюць грозы бушуючаму мору. Ніхто не спіць. Ваюючы з ветрам, усе матросы стаяць на сваіх пастах. Салёна - горкая вада лезе ў рот і вочы. Вецер коле сцюдзёнымі шпількамі. На целе няма сухой ніткі. Аднак зыйсці з паста нельга. Ад працы кожнага з іх залежыць жыццё многіх людзей. Трэба вытрымаць! Вось тут выпрацоўваецца сапраўдны мужчынскі характар.

Радыёмеханік сядзіць у кабіне са слухаўкамі на вушах. Ловіць патрэбныя хвалі. Часам у прыёмніку пачуецца сігнал «SOS». Можа гэты параход ідзе на дапамогу? Калі гэта недалёка — напэўна. Мора вучыць, як трэба кахаць жыццё, як ім даражыць. Тут няма ворагаў. Мора — цвёрдая школа жыцця, тут усяму навучышся...

Раптам нехта ўваходзіць у пакой.

— Кладзіся спаць, позна ўжо!

Вочы прытамнеюць. Ах, шкада, што гэта былі мары! А можа гэта сапраўды калісьці будзе? Можа... Ну, але цяпер пара спаць...

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

